# КАЛІНКА

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ Г. КАЛІНКАВІЧЫ. САКАВІК 2014 Г.

**ЦЫЦЭРОН: “СВАБОДА - ГЭТА ЎДЗЕЛ ВА ЎЛАДЗЕ”.**

# У Азарычах за сем дзён загінула каля 9 тысяч чалавек...

У час вайны не існуе такой жорсткасьці, якую нельга было б перасягнуць. З моманту нападу войскаў вэрмахта на Савецкі Саюз у чэрвені 1941 года, цывільнае насельніцтва ва Ўсходняй Польшчы, у прыбалтыйскіх дзяржавах, Беларусі , ва Ўкраіне, у самой Расеі і на Каўказе было самым жорсткім чынам ўцягнутае ў вайну зьнішчэньня, піша нямецкая выданьне *Die Welt.* Загінулі мільёны чалавек — застрэленыя салдатамі СС, спаленыя ў вёсках, зьмеценыя артылерыяй, разарваныя бомбамі, аслабелыя голадам. Тое, што Чырвоная армія дзейнічала ня менш жорстка, чым вэрмахт, нічога не мяняе ў ваенных злачынствах Нямеччыны.

70 гадоў таму ў час адступленьня праз Беларусь 9-ая армія ўчыніла масавае забойства. *«Спаленая зямля»* — так гучаў асноўны прынцып падчас адступленьня ў бок захаду. Надыходзячая Чырвоная армія павінна была ўбачыць поўную адсутнасьць інфраструктуры, палёў, пабудоў — словам, не павінна было застацца нічога, што можна было б выкарыстоўваць у ваенных мэтах, у тым ліку, людзей у якасьці дапаможнай сілы.

Усе працаздольныя мужчыны ва ўзросьце ад 15 да 65 гадоў павінны былі суправаджаць войскі вэрмахта і выконваць земляныя працы. Паколькі адначасова забівалі жывёлаў, спальвалі вёскі і палі, зьявілася тэхнічная праблема. Што рабіць з непрацаздольнымі членамі сем’яў ваеннаабавязаных мужчынаў? У ваенным дзёньніку 9- й нямецкай арміі было напісана — *«Заплянавана перакінуць усіх непрацаздольных людзей з прыфрантавой зоны на пакінутую тэрыторыю».* Само па сабе гэта паведамленьне не несла ў сабе прыкмет злачынства. Але мы чытаем далей. *«Рашэньне вызваліцца такім чынам ад цяжару, які патрабуе харчаваньня, было прынятае вярхоўным камандаваньнем арміі пасьля разьлікаў і аналізу наступстваў».* *(Працяг на 2-ой стар.)*



*Ахвяры азарычскага канцлагеру (сакавік 1944 г.)*

# У судзе над Віктарам Віліпцом - тайм-аўт




У Магілёўскім абласным судзе пасля трохмесячнага разгляду абвешчаны перапынак на няпэўны тэрмін у пасяджэннях па крымінальнай справе былога старшыні Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца.

4 лістапада 2013 года Магілёўскі аблсуд пачаў разгляд крымінальнай справы, распачатай у дачыненні да службовых асоб Гомельскага гарвыканкама. Паводле даных Следчага камітэта, абвінавачаныя ў верасні-кастрычніку 2011 года незаконна размеркавалі паміж сабой, сваімі сваякамі, блізкімі і знаёмымі кватэры ў шматкватэрных жылых дамах, прынятых у эксплуатацыю ў студзені—красавіку 2011 года. Частка жылых памяшканняў была афармлена на падстаўных асоб.

На лаве падсудных акрамя Піліпца — дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомеля Ігар Адарчанка, яго намеснік па эканоміцы і фінансах Валерый Барысевіч, начальнік жыллёва-інвестыцыйнага аддзела Антаніна Зелянок і начальнік планава-дагаворнага аддзела Ала Нізкоўская. Піліпец і Нізкоўская ўтрымліваюцца пад вартай у Магілёўскім СІЗА.

Як паведаміла сакратар суда Жанна Караткевіч, перапынак у судовым разглядзе справы быў абвешчаны па хадайніцтве боку абвінавачання. Паводле яе слоў, падсудныя Піліпец і Нізкоўская па-ранейшаму знаходзяцца пад вартай. Сакратар адзначыла, што, магчыма, пры аднаўленні разгляду справы спатрэбіцца дадатковы допыт сведак. Яна адмовілася паведаміць прычыну, па якой дзяржаўны абвінаваўца Дзяніс Кічыгін прасіў аб перапынку ў судовых пасяджэннях.

Дзяржабвінаваўца ў сваю чаргу таксама адмовіўся пракаментаваць матывы, якія прымусілі яго прасіць аб перапынку. Пры гэтым ён пацвердзіў, што гэтае хадайніцтва зыходзіла ад яго. Раней Дзяніс Кічыгін паведамляў, што па справе праходзяць каля 60 сведак.

***“БелаПАН”***

Да 12 сакавіка 1944 году салдаты 35-й пяхотнай дывізіі і камандаваньня СС загналі, як найменей, 40 тысяч, а, магчыма, і 50 тысяч чалавек на абгароджаную калючым дротам балоцістую мясцовасьць непадалёк ад беларускай вёскі Азарычы. Якіх-небудзь збудаваньняў накшталт прыбіральняў, калодзежаў або тым больш, месцаў для гатаваньня ежы, там не было, не кажучы ўжо пра баракі або палаткі. Сотні людзей былі застрэленыя, калі спрабавалі ўцячы за калючы дрот, каб іншыя былі больш пакорлівыя.

Многія з тых, хто афіцыйна быў клясыфікаваны, як непрацаздольны, былі хворыя, заражаныя тыфам. Іх зачынілі на абмежаванай прасторы бяз ежы і чыстай вады. У дзёньніку 9- й арміі пра гэта пісалася як аб посьпеху. *«Апэрацыя прынесла істотную палёгку на ўсім полі бою. Жылыя тэрыторыі былі разгружаныя і вызваленыя для разьмяшчэньня войскаў. На бескарысных едакоў больш ня будзе траціцца харчаваньне. За кошт ізаляванасьці хворых былі значна скарочаныя ачагі інфэкцый».*

Спатрэбіўся тыдзень, каб Чырвоная армія вызваліла агароджаныя тэрыторыі. За гэты час тут адбыліся страшныя падзеі. У маразы на адкрытым паветры пры мінус 10 градусах знаходзіліся жывыя людзі. Страціўшы надзею, яны спрабавалі падпаліць зьмёрзлую брудную ваду з балота. Жанчыны і дзеці, старыя і хворыя паміралі адзін за адным.

За сем дзён загінулі каля 9 тысяч чалавек. Большая колькасьць загінулых была, хіба што, у нямецкіх лягерах зьнішчэння на акупаванай польскай тэрыторыі — у Асьвенцыме-Біркенаў, Трэблінцы або Сабідоры. Пра тое, колькі чалавек загінулі пасьля вызваленьня савецкімі салдатамі, ніхто ня ведае, магчыма, гэта былі многія тысячы.

Азарычы ня былі канцэнтрацыйным лягерам, як некаторыя лічаць. Лягеры, тыповыя для нацысцкай Нямеччыны комплексы, былі, у адрозьненьне ад імправізаванай агароджанай калючым дротам тэрыторыі, складанымі па структуры селішчамі. Тут жа салдаты вэрмахта не рабілі злачынстваў, як гэта адбывалася ў канцэнтрацыйных лягерах. Яны проста пакідалі зьняволеных людзей на волю лёсу. У параўнаньні з колькасьцю ахвяр сярод савецкіх ваеннапалонных у 1941/1942 гадах ( 2,5-3,3 мільёна) , колькасьць загінулых у Азарычах здаецца невялікай. Доля памерлых была, на першы погляд, невялікай — каля адной пятай або адной чацьвёртай. Практычна кожны другі салдат Чырвонай арміі гінулі ў нямецкіх канцлягерах.

Але Азарычы ад іншых злачынстваў ваеннага часу адрозьніваў тэмп сьмяротнасьці. За сем дзён загінулі 9 тысяч чалавек. Калі б Чырвоная армія прасоўвалася павольней, магчыма, колькасьць ахвяраў было б утрая большай.



Мемарыял у Азарычах

За сваю жорсткасьць камандуючы 35-й пяхотнай дывізіі генэрал-лейтэнант Ёган -Георг Рыхерт, паўстае ў 1946 годзе ў Менску перад савецкім трыбуналам і быў прысуджаны да сьмяротнага пакараньня. Справа, у адрозьненьне ад Нюрнбэргскага працэсу, ня разглядалася ў адпаведнасьці са стандартамі прававых дзяржаваў. Зь іншага боку, віна Рыхерта была бясспрэчнай.

Яго начальнік, генэрал танкавага войска Ёзэф Харпэ, у сярэдзіне красавіку 1945 трапіў у палон да амэрыканцаў, і выйшаў на волю праз тры гады ў 1948 годзе. За Азарычы Харпэ ня быў прыцягнуты да адказнасьці, хоць пад яго кіраўніцтвам выйшла ўказаньне аб *«вызваленьні ад хворых, інвалідаў, старых і жанчын з больш чым двума дзецьмі маладзей за дзесяць гадоў і іншых непрацаздольных»*. Ён памёр ў 1968 годзе ў Нюрнбэргу ва ўзросьце 80 гадоў, — цытуе нямецкае выданьне партал *inosmi*.

*"Радыё Свабода"*

## ЦИФРЫ НОМЕРА. ЦИФРЫ НОМЕРА. ЦИФРЫ НОМЕРА.

# Почти 10% работников, занятых в экономике Беларуси, получают зарплату менее 2 млн. рублей.

**И ЭТО ТОЛЬКО ПО ОФИЦИАЛЬНЫМ (ЗНАЧИТЕЛЬНО ЗАНИЖЕННЫМ) ДАННЫМ.**

# Прагандляваліся, або Экспартны правал

Мытны камітэт уже абнародаваў сумныя лічбы знешняга гандлю Беларусі ў мінулым годзе. Мы прагандляваліся! Купілі за межамі краіны тавараў і сыравіны на 42,8 мільярда доллараў ЗША, а прадалі — толькі на 36,8 мільярда долараў. У выніку ўтварылася “валютная дзірка” ў 6 мільярдаў. У любой іншай дзяржаве ў гэтую “дзірку” зваліліся б і ўрад, і прэзідэнт, бо жыць без імпарту наша краіна не можа, а ягоную аплату пад іхнім пільным кіраўніцтвам мы не зарабілі. А значыць, трэба будзе альбо прадаваць заводы, у стварэнні якіх ніякай заслугі гэтай улады няма, альбо ўлазіць ў пастку пазык, выплачваць якія прыйдзецца нашым дзецям і ўнукам.

Пры гэтым кожны замежны візіт беларускіх афіцыйных асоб суправаджаецца запэўніваннямі, што ён быў вельмі паспяховым, што падпісаны шматлікія кантракты і эканамічны эфект для нашай краіны будзе неверагодным. “Народная Воля” вырашыла параўнаць гэтыя абяцанні з рэальнасцю. Белстат яшчэ ўдакладняе інфармацыю па знешнім гандлі ў снежні мінулага года, таму будзем абапірацца на афіцыйныя дадзеныя за студзень—лістапад 2013 года.

**ВЕНЕСУЭЛА: ІМКНЁМСЯ ДА НУЛЯ**

Толькі глухі не чуў пра паспяховае беларуска-венесуэльскае супрацоўніцтва. Толькі сляпы не чытаў аб шматлікіх праектах, якія рэалізоўваюць Мінск і Каракас, і аб тых перспектывах, якія адкрывае нашым прадпрыемствам асабістае сяброўства беларускага і венесуэльскага кіраўніцтва. Незалежныя эксперты, праўда, з першага дня папярэджвалі, што стаўка на Венесуэлу вельмі рызыкоўная, што супрацоўніцтва не можа быць доўгім, што вельмі “ўкладацца” ў гэты накірунак не трэба. Па-першае, таму, што гэта краіна бедная і сама не мае грошай, рэгулярна беручы крэдыты то ў Расіі, то ў Кітая. Па-другое, нестабільнасць улады.

Хто меў рацыю? Лепш за ўсё гэтую дыскусію, напэўна, рассудзяць лічбы. Па выніках 11 месяцаў мінулага года тавараабарот у гандлі з Венесуэлай склаў 78 мільёнаў долараў ЗША. Дарэчы, гэта толькі 14,3% (!) ад узроўню папярэдняга, 2013-га, года. А гэта значыць, што пад прапагандысцкую балбатню супрацоўніцтва паступова сыходзіла на нішто. Праўда, станоўчы момант у беларуска-венесуэльскім супрацоўніцтве ўсё ж такі ёсць. Амаль увесь аб’ём гандлёвага абароту склалі пастаўкі беларускіх тавараў за акіян. Іншымі словамі, на гэтым накірунку мы нагандлявалі мала, але сабе ў плюс. Шкада толькі, што доўгатэрміновыя ўкладанні беларускага боку ў Венесуэлу статыстыка не ўлічвае. А гэтыя ўкладанні, як ужо ўсім зразумела, наўрад ці акупяцца.



*Дзяржава Беларусь, якой кіруе рэжым Лукашэнкі, не можа самастойна забяспечыць сваё існаванне*

**КІТАЙ: НАСТУПЛЕННЕ Ў АДНЫМ НАКІРУНКУ**

Нам ужо і Расія не патрэбна, бо ёсць Кітай! Калі не даслоўна, то прыблізна так выказваліся беларускія афіцыйныя асобы пасля шматлікіх сустрэч з прадстаўнікамі Паднябеснай. І настойліва нас запэўнівалі, што Кітай — гэта перспектыва беларускай эканомікі атрымліваць мільярды мільярдаў сапраўднай валюты.

Праўда, апошнімі днямі загучалі іншыя ноткі. “Кітайцы хітрыя”, — днямі прызнаўся кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч, які нядаўна наведваў з візітам гэтую краіну. Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу выказаў незадаволенасць, што не атрымліваецца рэалізацыя праекта беларуска-кітайскага тэхнапарка, бо фінансаваць яго мы павінны са свайго бюджэту, а вось кітайцы ўкладаць грошы не спяшаюцца.

*(Продолжение на 4-ой стр.)*

# Экспартны правал...

Вынікі беларуска-кітайскага супрацоўніцтва ў мінулым годзе (за выключэннем снежня) наступныя: гандлёвы абарот склаў крыху больш за 3 мільярды долараў. Нехта скажа: "Дык гэта выдатна!" І паспяшаецца. Бо экспарт беларускіх тавараў у гэтую краіну склаў толькі 412 мільёнаў долараў, а вось кітайскі экспарт — 2,6 мільярда долараў. Большыя паказчыкі адмоўнае гандлёвае сальда склала толькі ў гандлі з Расіяй, але не будзем забывацца, што ў Расіі мы закупляем сыравіну — газ і нафту. А што ў Кітаі? Тавары і тэхналогіі. Прама скажам, не лепшыя!

**ПА МАРШРУТАХ ГОДА - ПОСПЕХАЎ НЯМА**

У якія краіны з візітамі ў мінулым годзе ездзіў Аляксандр Лукашэнка, і ці зафіксаваны пасля іх прарыў беларускіх тавараў на гэтыя рынкі? Гэта таксама лёгка можна праверыць па статыстыцы (прычым мы не аналізавалі візіты, якія былі здзейснены ў другой палове года, бо, можа, часу не хапіла рэалізаваць задуманае).

У сакавіку мінулага года адбыўся візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Інданезію. За студзень—лістапад мінулага года Беларусь паставіла ў гэтую краіну тавараў на 84,5 мільёна долараў ЗША. Гандлёвы абарот павялічыўся на 1%.

Наступным адрасам прэзідэнцкага лайнера з надпісам "Рэспубліка Беларусь" на борце быў Сінгапур. Мы паставілі ў гэтую краіну тавараў на 6 мільёнаў долараў, а імпартавалі — на 27,5 мільёна (дадзеныя за ўсё той жа перыяд). Прычым беларускі экспарт на 20% скараціўся, сінгапурскі імпарт — на 55% павялічыўся. Іншымі словамі, "прыстроіць" наш тавар у выніку гэтага візіту не ўдалося...

Потым быў візіт у Казахстан. Лічыцца, што гэтая краіна для нас такі важны і блізкі партнёр, што мы працуем з кожным годам усё больш цесна. Аднак на аб'ёмах знешняга гандлю гэта не сказалася. Па крайняй меры, калі



*Міжнародны гандаль прыносіць Беларусі адны страты...*

параўноўваць мінулы год і пазамінулы. І нават асабістая сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і Нурсултана Назарбаева сітуацыю не выратавала.

Праўда, у гандлі з Арменіяй (візіт у Ерэван адбыўся ў маі мінулага года) мы ўвогуле збавілі абароты і нават не выйшлі на паказчыкі 2012 года. Тое самае можна сказаць і пра Украіну, нягледзячы на візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Кіеў.

Карацей, калі дзе што і атрымалася прыстроіць па выніках візітаў, то "па драбязе" — абы акупіць сам візіт і знаходжанне дэлегацыі. Так што праблема збыту беларускіх тавараў стаіць досыць востра. І вырашыць яе не ўдаецца нават з асабістым удзелам Аляксандра Лукашэнкі.

*Ірына Мальцава, "Народная Воля"*

**Паважаныя чытачы, электронную версію "Калінкі" вы можаце знайсці на інтэрнэт-старонцы gomelcivil.org Ласкава запрашаем!**

**ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!**

**Мы з задавальненнем друкуем лісты і допісы нашых чытачоў, у якіх узнімаюцца актуальныя і злабадзённыя праблемы з жыцця нашага горада і раёна. Вось наш e-mail:** newkalinka2012@gmail.com

**Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.** ***(Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. Арт. 19).***

"Калінка"
*Незалежнае інфармацыйнае выданне.*

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад - 299 асобнікаў.
Выходзіць 1 раз на месяц.



**Будзьце свабоднымі і жывіце без страху.**